Серыя «Казкі роднага краю»

Для малодшага школьнага ўзросту

Ігар Пракаповіч

# Казка
# пра ваяўнічага камара

Мастак
Іосіф Атрахімовіч

Рэдактар Наталля Пракаповіч

Кампутарны набор і вёрстка
Ігара Пракаповіча

Паставы
Таварыства Беларускай Мовы
2011 год

Ігар Пракаповіч



КАЗКА пра ВАЯЎНІЧАГА КАМАРА





Той удар быў страшэнны
        бяз меры, -
Паляцеў я далоў,
        як паперы.

Дзякуй лёсу, мурашкі
        пазналі,
Адкачалі мяне,
        падабралі.

Больш ніколі не буду я
        біцца, -
Надта ж цяжка ляжаць
        і лячыцца...»







Жыў на свеце камар
ваяўнічы,
Меў вялікі ён інстынкт
паляўнічы.

Як дзе бойка - ён туды
мчыць адразу,
А яго не пабілі
ні разу.



Зноў па лесе пайшла

пагалоска:

Будзе бойка. Збіраеца

войска.

І канешне ж, камару

не сядзіцца,

Лапкі чэшуцца, так цягне

пабіцца.

З камарыхаю камар

развітаўся,

Ды вясёленькі на бойку

падаўся.





Трэцці раз я хацеў яму

даць,

Аж тым часам ён хобатам -

храсць!

Так балюча па шыі

папала,

Што і біцца жаданне

прапала.

Як пачаў па спіне

ратавацца,

Дык з хвастом яго мусіў

спаткацца.



Камарыха ж камара
праважала.
Камарыха ж камару
ўсё шаптала:

«Ах камарык мой, камарык
слабенькі,
Ну чаму ж ты мой камарык
дурненькі?

Хоць ня лез бы ты ўперад,
камарык,
Не пашкодзіў бы прыгожы
свой тварык.»





"Т-там т-такую в-вайну
р-распачалі –
З-звяры ў лесе с-слана
лупцавалі.

Ну і я там, канешне,
ўвязаўся,
Да слана таго ззаду
падкраўся.

Два разы як урэзаў
каленам,
Дык той мяккі зрабіўся,
як сена.



Камарыха ля яго
прычытала
І праз слёзы шаптала,
пытала:

«Ты скажы, што з табой
адбылося?
Чаму мала так цябе
засталося?»

Доўга рыльцам варочаў
камарык,
Але ж мусіў сказаць
пра ахвяры:





Нездарма, відаць, сэрца
балела,
Дзень чакала, удалеч
глядзела.

А пад вечар і камарык
з’явіўся,
Ледзь дахаты прыйшоў,
прыпыліўся.

Не ляцеў, бо ляцець
ня меў сілы, -
Пабіў ногі, паламаў
свае крылы.

